# Газета для вас

№ 3 (266)
19—25 студзеня 2001 г.

Грамадска-палітычны штотыднёвік, выдаецца са студзеня 1997 года

Падпісныя індэксы:
63834 (індывідуальная)
64145 (ведамасная)

ІВАЦЭВІЧЫ-БАРАНАВІЧЫ-БЯРОЗА-ПРУЖАНЫ-ДРАГІЧЫН




## Крещение Христово

*Праздник Рождества и праздник Крещения Христова в древности назывались Богоявлением.*

Бог явился людям уже тогда, когда родился в Вифлееме, но тогда его увидели только волхвы и пастыри, а остальные люди и не могли увидеть. Нужно было, чтобы Христос был явлен всему народу. Это совершилось в Крещении, когда Бог Отец провозгласил об этом с небес, Дух Святой в виде голубя сошел на Иисуса Христа, а Иоанн Креститель, пророк и предтеча, во время крещения христиан в реке Иордань всему народу указал на него.

В этот день в церквях освящают воду в память того, что воды Иордана освятились, когда в них крестился Христос. У православных христиан есть обычай приносить домой "святую" или "богоявленскую" воду и бережно сохранять ее. Освящение воды накануне праздника Крещения совершается в храмах, а в самый день, если это возможно, на реках.

## ДУБЛЬ ДВА

*БАРАНОВИЧИ. Как известно, в Барановичах не состоялись выборы ни по одному из двух округов, и город остался без своих представителей в Национальном собрании РБ. На 18 марта назначен новый тур. Предвыборная гонка началась.*

Еще 11 января окружные избирательные комиссии закончили регистрацию инициативных групп по выдвижению кандидатов в депутаты путем сбора подписей. Инициативных групп набралось 10. Путем сбора подписей выдвинуты как те, кто ранее пробовал свои силы, так и новые кандидаты. По Западному избирательному округу выдвинуты два предпринимателя — В. Голынкин и С. Андрущенко и главврач детской больницы В. Зеневич. Избиратели выдвигают также и С. Мудрова — экономиста.

По Барановичскому-Восточному округу предложены кандидатуры "афганца" Н. Асташко, председателя организации "В помощь детям-сиротам" В. Давыдовича, начальника штаба гражданской обороны города Н. Сергиенко, завхоза городского Дома культуры Н. Богданова и двух женщин — С. Колягиной и Н. Стужинской.

Сейчас идет сбор подписей, и избирателю нужно определиться, с кем он.

*Галина СТРОЦКАЯ.*

## ЦІ ЗМЯНІЛАСЯ ВАША ЖЫЦЦЁ

### ЗА АПОШНІЯ 6-7 ГАДОЎ

*Не будзем крывіць душой і прама скажам: гэтае апытанне праведзена для таго, каб высветліць тое, наколькі ўдалося кіраўніцтву нашай краіны, з той пары як яе ўзначаліў Аляксандр Лукашэнка — палымяны змагар з карупцыяй і за народнае шчасце, — зрабіць народ багатым і заможным, як абяцалася амаль сем (нават не верыцца!) гадоў таму.*

*Трэба зазначыць: чакалася, што адказы будуць хоць трошкі радаснымі і ўдзячнымі ў адрас кіраўніцтва краіны. Бо яшчэ пару гадоў таму ўрад РБ сцвярджаў аб тым, што нараджаецца "беларускі эканамічны цуд" і "стабілізацыя". Дык ці палепшылася жыццё нашых сугрworld? Можа, мы, сярэднестатыстычныя беларусы, духоўна і матэрыяльна адрадзіліся, пачалі купляць у масавым парадку тэлевізары, халадзільнікі, матацыклы, скураныя паліто? Вось якія адказы мы пачулі ад жыхароў г. Бярозы.*



**Аляксандр Паўлавіч:** Скажу прама: жыццё змянілася ў горшы бок — і ў радавога чалавека, і ў цэлых прадпрыемстваў. Я, да прыкладу, працую сантэхнікам — заробак у мяне няважны, "фірму" ліхарадзіць.

Ніякіх добрых пакупак за сем гадоў я не зрабіў. Цераз два месяцы вяселле ў дачкі — як яго зрабіць з нашымі даходамі? Сітуацыя — хоць плач...



**Алена:** Жыццё пагоршылася — гэта больш чым відавочна. Восем год назад, калі выходзіла замуж, зрабіла большасць буйных пакупак, а сённяшніх заробкаў хапае толькі на дзіцячыя чаравікі, камунальныя паслугі ды харчаванне.

Вы ж бачыце: на Беларусі зарплаты ганяюцца за цэнамі і дагнаць не могуць.

**Марыя Іванаўна** (фатаграфавацца адмовілася): Безумоўна, жыццё пагоршылася. Няма ніякай стабільнасці: харчаванне, лякарствы каштуюць вельмі дорага. Я не працуючая, даглядаю хворую маці — вы б ведалі, колькі грошай трэба на лекі.

Якія тэлевізары, халадзільнікі? Аб чым вы? За што купляць іх?



**Аляксей:** Як яно палепшыцца, калі зарплата, да прыкладу, у меня — складае (я працую на мясакамбінаце) 40 тысяч, а нармальныя боты каштуюць 35 тысяч. А я яшчэ куру — трэба на цыгарэты грошы, адпачыць культурна хочацца.

Якія халадзільнікі, якія тэлевізары? Аб чым вы кажаце? Сёння трэба неверагодная эканомія, зубы на полку пакласці трэба, каб сабраць са сваёй зарплаты грошай на пакупку, да прыкладу, матацыкла...

*У народ хадзілі Аляксандр ГОРБАЧ, Святаслаў КАЖАДУБ (фота).*

## БЕРАЖЫЦЕ СЯБЕ!

*БЯРОЗА. Трагічным стаў першы дзень тысячагоддзя для фенольшчыка завода мінералаватных вырабаў Дзмітрыя Новіка.*

У дзённую змену пасля тэхналагічнай наладкі на лініі па вытворчасці паўжосткай пліты ў выніку няўзгодненых дзеянняў ён быў зацiснуты валкамі цэнтрыфугі, якія круцяцца з вялікай хуткасцю, і зваліўся з вышыні некалькіх метраў. З адкрытым пераломам левай нагі і шматлікімі пашкоджаннямі яго забрала хуткая дапамога. Кажуць, што падчас шматгадзіннай аперацыі некаторыя медсёстры ад выгляду перамалочанага цела гублялі прытомнасць. Дзякуй лекарам — яны выратавалі жыццё маладога чалавека, хоць ён застаўся без левай нагі.

Цяпер ён знаходзіцца ў бальніцы хуткай дапамогі ў Мінску, якая мае апарат штучнай ныркі, і пагроза яго жыццю зменшылася. Абставіны здарэння высвятляе Бярозаўская занальная дзяржаўная інспекцыя працы.

*Сяржук РУСЕЦКІ.*

## "Я всегда с собой беру видеокамеру"

*БЕРЕЗА. Эту популярную песенку теперь, наверное, чаще вспоминают сотрудники районного методического центра отдела культуры райисполкома — призеры республиканского смотра-конкурса методических центров РБ. Ведь за проделанную работу их наградили видеокамерой "Панасоник".*

Как сообщила "Газете для вас" директор центра Екатерина Шешко, на республиканском смотре-конкурсе березовчане выглядели более чем достойно. Кстати, сама Екатерина Федоровна награждена специальным дипломом — за личный вклад в усовершенствование системы организационно-методического обеспечения деятельности сельских учреждений культуры.

Рады за вас, земляки!

*Александр МИХАЛЕНКО.*

## ПОМНІМ СЛАВУТАГА ЗЕМЛЯКА

*ПРУЖАНЫ. Напрыканцы мінулага года споўнілася дзвесце гадоў з дня нараджэння І. Р. Кулакоўскага (1800—1870).*

Нарадзіўся Ігнат Кулакоўскі ў вёсцы Янаўшчына (цяпер в. Янаўшчызна Пружанскага р-на). Гэты чалавек усё жыццё выступаў за беларусізацыю сістэмы адукацыі, заклікаў імперскія ўлады захаваць самабытнасць беларускага народа, чысціню мовы. У канцы жыцця Ігнат Рыгоравіч стварыў школу, дзе вучыў сялянскіх дзяцей. Пасля яго смерці засталася вялікая колькасць навуковых прац па гісторыі, педагогіцы, стос матэрыялаў да падручніка "Гісторыя края". На жаль, работы Кулакоўскага не захаваліся да нашых дзён, але ж іскра таленту гэтага чалавека перадалася яго нашчадкам. Праўнучка Кулакоўскага нам добра вядома пад псеўданімам Зоська Верас.

*Крысціна КРУГЛЕВІЧ.*

## И смех, и грех, и первый пар

*БАРАНОВИЧИ. Городская баня в Барановичах реконструировалась энное количество лет. И любители попариться да и просто желающие помыться страдали. И вот желанный миг настал.*

В минувшую субботу первую очередь бани, ее первый этаж, где расположены женское и мужское отделения, торжественно открывали. Открывали так, как в старые добрые времена открывали заводы, — с духовым оркестром, при солидном сборе "цвета" города. И фуршет, говорят, был на уровне. За деньги, ушедшие на его организацию, можно было бы явно открыть и часть второго этажа. Кстати, услуги и пар банный любители попарится оценили на три с плюсом.

*Галина СТРОЦКАЯ.*

ВЫБАРЫ — 2001

# ЗАЯВА
## арганізацыйнага камітэта "Зямля і Воля"

На рубяжы тысячагоддзя група грамадзян Беларусі сабралася на сход і ўтварыла арганізацыйны камітэт "Зямля і Воля". Яго галоўная мэта — фарміраванне ініцыятыўнай групы выбаршчыкаў па збору подпісаў для вылучэння і рэгістрацыі кандыдата ў Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь.

Дзейнасць аргкамітэта будзе ў асноўным скіравана на працу з сельскімі выбаршчыкамі.

*Работу аргкамітэта мы дзелім на два этапы:*

**I. Да прызначэння прэзідэнцкіх выбараў:**
* фарміруем структуры аргкамітэта ў сельскай мясцовасці;
* рыхтуем кандыдатаў да працы ў выбарчых камісіях;
* арганізоўваем навучанне будучых назіральнікаў;
* праводзім кансультацыі з верагоднымі кандыдатамі на пасаду Прэзідэнта;
* распрацоўваем праграму кандыдата ў Прэзідэнты па праблемах АПК.

**II. Пасля прызначэння выбараў:**
* тэрміновa праводзім пасяджэнне аргкамітэта з удзелам паўнамоцных прадстаўнікоў усіх сельскіх раёнаў, на якім вызначаемся з кандыдатурай на пасаду Прэзідэнта;
* падпісваем Дамову аб прынцыпах выбарчай кампаніі з вызначанай асобай;
* аб'яўляем спіс членаў ініцыятыўнай групы выбаршчыкаў і абіраем яе кіраўніка;
* ініцыятыўная група выбаршчыкаў рэгіструецца ў Цэнтрвыбаркаме і прыступае да збору подпісаў грамадзян.

*Матывы нашай дзейнасці*

Аргкамітэт глыбока ўстрывожаны цяперашнім станам сельскай гаспадаркі. Заробкі ў гэтай галіне мізэрныя, калгасы і саўгасы абрабаваны, машына-трактарны парк зношаны на 80%, большасць гаспадарак даведзена да мяжы банкруцтва.

У прамой залежнасці ад эканомікі гаспадарак знаходзіцца сфера вёскі. У многіх вёсках няма бальніц ці медпунктаў, зачынены лазні, ліквідаваны школы, адменены рэйсы аўтобусаў, бытавыя ўмовы застаюцца на ўзроўні 1950-х гадоў.

Вёска бяднее, старэе і вымірае. Далей так жыць нельга. Патрэбны перамены. Патрэбен лідэр, які ўзначаліць агульнанацыянальны рух за *Адраджэнне Вёскі.*

Галоўны лозунг нашага кандыдата ў Прэзідэнты павінен быць кароткім і ёмістым:

**"ЗЯМЛІ ПАТРЭБНЫ ГАСПАДАР!"**

А сапраўдны гаспадар той, хто распараджаецца прадуктам сваёй працы на зямлі. Менавіта тут, на зямлі, знаходзіцца крыніца дабрабыту ўсяго грамадства.

Разам з тым мы лічым, што прыярытэтамі палітыкі новага Прэзідэнта павінны быць:

1. Правядзенне новай эканамічнай палітыкі.
2. Умацаванне суверэнітэту і міжнароднага становішча Рэспублікі Беларусь.
3. Будаўніцтва прававой дзяржавы на прынцыпах адкрытага грамадства.

Дзесяць апошніх год краіна тапталася на месцы. Віна за гэта ляжыць на кожным з нас. Мы, выбаршчыкі, сталі ў баку ад грамадска-палітычнага жыцця, мы не ўздзейнічалі на дзяржаўную палітыку, мы спадзяваліся, што нехта прынясе нам лепшую долю. Цяпер усім нам зразумела, што для нас ніхто нічога не зробіць. Трэба дзейнічаць самім. Пад ляжачы камень і вада не цячэ.

Шаноўныя выбаршчыкі! Мы заклікаем Вас падтрымаць нашу ініцыятыву, утварыць структуры аргкамітэта "Зямля і Воля" на тэрыторыі кожнага выбарчага ўчастка і тым самым прыняць актыўны ўдзел у выбарах новага Прэзідэнта.

Да такіх дзеянняў нас заклікаў яшчэ ў 1918 годзе народны пясняр Янка Купала:

"Гэй, паўстань, народ!
За сябе сам пастаяці
І за Бацькаўшчыну-маці
Йдзі, народ, на сход!"

Дык няхай жа гэтыя словы набатам прагучаць для кожнага з нас, паклічуць на вялікую справу - вырашаць свой лёс і лёс Бацькаўшчыны!

*Мінск, снежань, 2000.*

**Адрас аргкамітэта для лістоў: 220108, Мінск, а/с 333, кантактныя тэлефоны ў Мінску: 215-19-08, 226-80-98, 223-24-79, 509-32-20; у Магілёве: 25-84-43**

*Кіраўніцтва аргкамітэту "Зямля і Воля", грамадзяне Рэспублікі Беларусь: Антоненка Міхаіл, Нікітчанка Іван, Гуляеў Анатоль, Пашук Міхаіл, Доўнар Уладзімір, Супрун Фёдар, Крастоўскі Віктар, Унуковіч Анатоль, Кулажанка Уладзімір, Усюкевіч Генадзь, Ласевіч Аляксандр, Хлебус Аляксандр, Лугін Яўген, Юркоў Мікалай, Лявонаў Васіль, Ярашук Аляксандр.*

# ПРЫЗЫ — ПАДПІСЧЫКАМ



*Як, напэўна, добра вядома нашым чытачам, "Газета для вас" правяла святочны конкурс, у якім прынялі ўдзел падпісчыкі нашага выдання. Розыгрыш адбыўся 4 студзеня, пераможцы вызначаны, прызы ўручаны.*

*Дарэчы, "Газета для вас" плануе і ў пачатку другой паловы 2001 года правесці падобны розыгрыш.*

*Удзельнічайце і перамагайце!*

*НА ЗДЫМКАХ: прызы атрымалі падпісчыкі "Газеты для вас" Іна Вярэніч (г. п. Целяханы), Іван Лапінкевіч (г. Бяроза).*

*Аляксандр МІХАЛЕНКА. (Фота аўтара).*



КРЫМІНАЛ

## "Або грошы, або смерць!"

Святлана Глушэня, загадчыца магазіна вёскі Руда, 3 студзеня надвячоркам вярталася дамоў у вёску Аляксейкі. Ля дачнага пасёлка з-за плоту першага дома выскачыў мужчына ў масцы і з нажом у руцэ і гучна крыкнуў: "Або грошы, або смерць!" Дзяўчына так разгубілася, што і голас адняло. А рабаўнік схапіў сумку і пабег у бок вёскі Руда.

Разам з сумкай прадаўшчыцы зніклі каля 80 тысяч рублёў, ключы ад магазіна. калькулятар, рабочы сшытак з запісамі.

Дзе шукаць рабаўніка? Аператыўнікі вырашылі пабываць у Рудзе, каб прайсціся па старых адрасах. Былі падазроныя асобы. Да адной з такіх асоб і заглянулі ў хату. Падазроны знаходзіўся дома. Маці нават пацвердзіла, што яе сын пасля 16 гадзін не выходзіў з дому. А напад на магазіншчыцу адбыўся пасля 17 гадзін. Падазрэнне як бы́ццам адпадала.

Міліцыянеры паехалі ў вёску Кушняры. Там расказалі ім, што падазроны з Руды быў днём ля магазіна ў Кушнярах, апрануты ў зялёную куртку, на галаве — чорная вязаная шапачка, абуты у вялікія новыя красоўкі.

Аператыўнікі вярнуліся ў Руду.

Спярша падазроны М. адмаўляў сваё дачыненне да рабавання. Калі ж знайшлі на печцы схаваныя мокрыя красоўкі, сляды ад якіх засталіся на снезе на месцы здарэння, аднекваўца не мела сэнсу. І ўсё знайшлося.

Хто ж ён, рабаўнік? Падлетак, яму яшчэ няма і 15 гадоў. Але выглядае больш дарослым. Вучыцца толькі ў 7 класе (Сенькавіцкая базавая школа). Меў і раней за сабой грахі, бо стаіць ва ўліку ў інспекцыі па справах непаўналетніх.

Па факце рабавання ўзбуджана крымінальная справа. Вядзецца следства.

*Аляксандр ГЛУШЭНЯ, начальнік аддзела крымінальнага вышуку Івацэвіцкага РАУС.*

АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?

## Куды здаць жывёлу?

*Я жыву ў вёсцы, трымаю жывёлу. Хачу прадаць быкоў. У мясцовым калгасе "Грыўдзенскі" мне сказалі, што там прымаюць толькі маладняк, а ў мяне бычкі значна большай вагі. Куды мне параіце здаць жывёлу?*

*Дзмітрый Мікалаевіч МЯДЗВЕЦКІ, жыхар вёскі Харошча Івацэвіцкага раёна.*

Па-першае, уласных бычкоў вы можаце здаць у Івацэвіцкую нарыхтоўчую кантору. Праўда, як нам сказалі, тут прымаюць яе толькі ва ўбойнай вазе. Адзін кілаграм ялавічыны I катэгорыі каштуе 1119 руб.

Па-другое, жывёлу прымаюць на Бярозаўскім мясакансервавым камбінаце. Варта туды патэлефанаваць у сыравінны аддзел і паведаміць свой адрас. Калі ёсць 5—6 галоў буйной рагатай жывёлы вагой не менш 300 кілаграмаў, то прышлюць і транспарт.

У першым і другім выпадках трэба мець неабходныя даведкі аб прыналежнасці жывёлы і ўе стану.

## Тэлефон — рэч патрэбная

**ПРУЖАНЫ.** Нягледзячы на тое, што тэмпы тэлефанізацыі ў 2000 годзе скараціліся амаль удвая, раён па-ранейшаму займае пятае месца ў вобласці па колькасці тэлефонных кропак і АТС. Зараз тэлефоны маюць 92,3% гараджан, у сельскай мясцовасці — 53,2%.

*Крысціна КРУГЛЕВІЧ.*

БЫВАЕТ ЖЕ...

## Оправдательный приговор

В прошлом году в Барановичском районе случилось редкое ЧП: кто-то покушался на жизнь участкового милиционера В. Шемета и поджег ночью дверь его квартиры. По обвинению в этом преступлении был задержан 20-летний Денис Григорович, который провел в СИЗО 10 месяцев. И вот судебная коллегия по уголовным делам Брестского областного суда вынесла Григоровичу оправдательный приговор, что в общем-то невиданно. Во-первых, не в пользу работника милиции; во-вторых, оправдательный приговор редкость не только для Барановичей, но и для всей нашей республики.

Если вина Григоровича не была доказана, то зачем было держать за решеткой молодого человека почти целый год?

*Галина СТРОЦКАЯ.*

РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

# ШТО ПАЧЫМ?

*Цэны на рынках нашага рэгіёна па стану на 17.01.2001 г. (у руб. за адзін кілаграм):*

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны | Драгичин |
|---|---|---|---|---|---|
| Свініна | 2500 | 2500—3800 | 2500—3600 | 2500—3400 | 2500—3000 |
| Сала салёнае | 1900—2500 | 1800—2400 | 2700 | 2400 | 2200 |
| Алей (1 л) | 750—1000 | 700—1100 | 750—950 | 750—1100 | 820—1000 |
| Яйкі | 900—1000 | 800—1000 | 800—1000 | 1000 | 1000 |
| Малако (3 л) | 600 | 550 | 500—600 | 550 | — |
| Шпроты | 400—450 | 400—420 | 400—420 | 400—500 | 500 |
| Масла сметанк. | 1800—2000 | 1900 | 2000 | 2000 | 1700 |
| Бульба | 80—100 | 100—120 | 100 | 100 | — |
| Цыбуля | 250 | 180—220 | 150—200 | 200 | 110—190 |
| Морква | 150—200 | 100—150 | 180 | 200 | — |
| Капуста | 100 | 100—120 | 100 | 100 | — |
| Грушы | — | 600—1000 | 200—400 | 400 | — |
| Буракі | 60—80 | 60—80 | 60—80 | 80 | — |
| Мандарыны | 2000 | 1200—1600 | 1500 | 1500 | 1750 |
| Грэцкія арэхі | 1300 | 1300 | 1500 | 1200 | 1400 |
| Яблыкі | 150—1100 | 300—1800 | 200—1500 | 300—420 | 200—250 |
| Маянэз | 260—450 | 240—420 | 240—420 | 240—450 | 300—400 |
| Вінаград | 4000 | 3500 | 3800 | — | — |
| Хурма | 1600 | 1000—1300 | 1500 | 1500 | — |
| Часнок | 800 | 800 | 1000 | 300—800 | 800 |
| Лімоны | 1500 | 1300—1500 | 1300 | 1300 | 1500 |
| Апельсіны | 1200 | 1500 | 1200 | 1200 | 1100 |
| Бананы | 1100—1200 | 1400 | 1300 | 1200 | 900—1150 |
| Гранаты | 1900 | 1900 | 1800 | 1800 | — |
| Грэчка | 580—660 | 650 | 550 | 650 | 600 |
| Макар. вырабы | 520—560 | 500—560 | 510—550 | 500—600 | 500—600 |
| Рыс | 480—500 | 500—520 | 550 | 550 | 500 |
| Манныя крупы | 460—500 | 460 | 500 | 460 | — |
| Проса | 350 | 330 | 360 | 360 | — |
| Цукар | 560 | 550 | 550 | 550 | 570 |
| Мёд | 3.500 | 4.000 | 3.600 | 4.000 | 5.000 |

**ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ (руб.)**

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 1220 | 1300 | 1220 | 1300 | 1220 | 1300 | 1220 | 1300 | 1235 | 1250 |
| 1 дойчмарка | 570 | 590 | 560 | 580 | 560 | 590 | — | — | 560 | 580 |
| 1 рубель Расіі | 40 | 43 | 40 | 44 | 40 | 44 | 41 | 44 | 40 | 45 |

# “ПАПА У ВАСИ СИЛЁН В МАТЕМАТИКЕ?”

### ТАК ЛУЧШЕ ИЛИ ХУЖЕ СТАЛИ ЖИТЬ В РБ?

***Днями послушал монолог одной пожилой тётеньки ( на вид — педагог пенсионного возраста), которую распирали самые нежные чувства к руководству страны нашей. Дело было в зале районного узла связи, где выстроилась к окошечку очередь из унылых и понурых пенсионеров, чтобы отдать государству часть из своих скудных доходов. Так эта тётенька вовсю использовала предоставившуюся ей возможность для проведения своеобразного брифинга в общественном месте. Её пламенный спич, разумеется, вёлся на том русском языке, слушая который сами русские усмехаются в воротник.***

— Дак ведь Чайка Нина говорила по радио, что во всех странах Яўропы, даже в Чехии, я не гавару про Украину ци Литву, старых пенсионеров забиваюць, уничтожаюць, потому что молодым няма как жить.

Это добре, что наш президент за нас горой, а то, небось, нам, старыкам, жизни никакой не было б. Позабивали бы всех...

Не правда ли, уважаемый читатель, мы с вами раньше такого ещё и не слыхали. Нетнет, чайки и мухи нам время от времени подсовывают подобный политический экстремал, что-де, мол, мы с вами до гроба должники руководителя страны нашей. Но чтобы с таким подтекстом?..

“И что ж ты не встрял в спор с этой тётенькой?”— спросит читатель. Действительно, можно было в очном споре упомянуть, как кажется автору этих строк, уместный медицинский термин “старческий маразм”, но зачем же уподобляться этой тётеньке? Сегодня поговорить хочется о другом.

Не заметили ли вы, уважаемый читатель, что во всех этих убогих передачах о политике, как-то: “Позиция”, “Разговор по существу”, “Резонанс” и т. д. — практически отсутствует математика. Ни Чайка, ни Богодяж, ни Зимовский — восходящая “звезда” мировой тележурналистики, говоря об экономике, ни одного разу не прочитали в радиоэфире, не потрясли перед экраном конкретными данными, действительно подтверждающими, что в РБ — конкретный и объективный экономический рост, который они так туманно и уклончиво изображают. Без цифр, конечно, изображают.

Если бы Нина Чайка прибегла к математике, то ей пришлось бы заострить внимание слушателя, что цена на хлеб за 2000 год выросла с 60 рублей до 260, а лучшего подтверждения, что в экономике хаос, броуновское движение, и не надо.

Если бы Александр Зимовский любил математику, то он, говоря об экономических “достижениях”, не забыл бы упомянуть, что, к примеру, цена на дизтопливо поднялась с 160 рублей за литр (начало года) до 425 (конец года), а лучшего подтверждения, что в экономике страны неразбериха и бесталковщина, и не надо.

Если бы Юрий Дудинов прибег к конкретным цифрам, то ему пришлось бы слушателю пояснить, что инфляция в РБ в прошлом году составила 78 процентов (ни в одной республике бывшего СССР такого провала не наблюдается, даже в как бы неблагополучных Таджикистане, Армении, Грузии). Результатом этого провала: все соседи РБ теперь ввозят к нам и торгуют мясом (из Польши), алкогольными напитками, подсолнечным маслом, конфетами, приправами (из Украины), маслом сливочным и подсолнечным, пивом, мясными изделиями (из России). А ведь ещё пяток лет назад Беларусь могла гордиться тем, что цены на продукты здесь на порядок ниже, чем на Украине или в России...

Но вот Чайка, Зимовский, Дудинов не любят математику. Как, впрочем, и все белорусы.

Помню, довелось общаться на эту тему с одним своим земляком Л., уже длительный срок проживающим в Австрии. На этом доверии и недоверии к цифрам он и заострил моё внимание.

“Там, в Австрии,— говорил Л.,— отношение к политикам абсолютно бесстрастное. Если при политике А. у них инфляция составит, к примеру, 20 процентов, а при Б. — 19,999, то вы, хоть умрите, не докажете австрийцу, что А. лучше (потому что он хороший, он старается, но ему не дают). Выслушав ваши голословные аргументы, австриец достанет калькулятор и докажет, что Б. на 0,001 лучше контролирует дела в экономике и, значит, голосовать надо за него. У нас же новый старый кандидат по фамилии Лукашенко полчаса дефилировал в “Панораме” и не сослался ни на одну конкретную цифру, которая смогла бы убедить нас, что всё о'кей. Оно и понятно: цифры говорят о провале.

Можно бесконечно тараторить о том, что власть тогда валялась в грязи и теперь её сделали цивилизованной, да вот факты и цифры говорят о том, что нынче, когда власть в грязи не валяется, в эту, простите меня, грязь народ окунули и вываляли.

XXX

Если бы вышеупомянутая тётушка, которая проводила брифинг в зале районного узла связи, любила математику и конкретные цифры, а не околофольклорные сказки и предания Нины Чайки, то она (хотя бы в оппозиционной прессе) нашла бы данные, которые как раз свидетельствуют о том, что пенсионеры в Польше, Литве или Чехии живут на 5-10 лет больше, чем пенсионеры в РБ.

Это значит, что если где-то идёт условное уничтожение пенсионера, то оно идёт в Республике Беларусь. Об этом цифры говорят. Да вот эти тётушки не любят математику. Как, впрочем, и большинство из нас.

***Александр ГОРБАЧ.***



# Читаю Конституцию, как сказку...

### ВЕДЬ ВСЁ ИНАЧЕ НАЯВУ

**— Человек... является высшей ценностью и целью... государства.**
(Статья 2 Конституции Республики Беларусь).

**— Каждый имеет право на достойный уровень жизни, включая достаточное питание, одежду, жильё и постоянное улучшение необходимых для этого условий.**
(Статья 21 Конституции Республики Беларусь).

Эти строки взяты из нашей действующей сейчас Конституции Республики Беларусь, принятой на республиканском референдуме 24 ноября 1996 года. Правда, какие прекрасные слова? Душа радуется, когда их читаешь.

Но на деле всё наоборот. Нашему уровню жизни не позавидует, наверное, никто в мире.

Что значит — достаточное питание? Первое правило: питание должно быть полноценным, качественным, разнообразным — хлеб, мясные и молочные продукты, крупа, рыба, овощи и фрукты (обязательно!), мёд, орехи и т. п. Сейчас никто не сомневается в том, что полноценное питание — одно из прекраснейших лечебных средств. Питанию действительно принадлежит первостепенная роль в жизни человека.

Между тем, специалисты утверждают, что каждое, пусть даже незначительное нарушение в питании изо дня в день подтачивает в конце концов здоровье человека, понижает стойкость и работоспособность организма, что особенно заметно у нас: продолжительность жизни стремительно уменьшается. Белорусы вымирают, а из живущих болеет практически каждый.

Как вы думаете, с кого можно спросить за невыполнение Конституции нашей республики?

А что значит: человек является высшей ценностью государства? Это значит, что для него **везде и всегда** должны быть созданы наилучшие условия жизни: человек должен получать достаточно денег, чтобы не отказывать себе хотя бы в основном (питании, одежде, жилье); начальство должно решать его проблемы, а не свои; транспорт должен ходить так, как удобно людям; врачи должны лечить человека, а не ждать от него сумок; учителя — радоваться успехам каждого ребёнка, а не стараться подловить и наказать его; продавцы — встречать покупателя как самого желанного гостя. (Между тем, на “гнилом Западе” все люди рады друг другу, всегда приветливы и добры. Даже фотография в паспорте обязательно должна быть с улыбкой).

Наша Конституция “гарантирует” постоянное улучшение нашей жизни. Или, может, там описка? Потому что если заменить “улучшение” на “ухудшение”, то всё выполняется нашим государством как нельзя лучше...

***Виктория ХУТКО.***
*г. Белоозёрск.*

**● БЛІЦ-ІНТЭРВ'Ю**

# А ў адказ — цішыня

***Хоць на Беларусі на сёняшні дзень існуе нейкае палітычнае зацішша, ёсць праблема, якая, безумоўна, трывожыць усіх: і тых, хто пры ўладзе, і тых, хто ў апазіцыі, і тых, хто палітыкай, як быццам не цікавіцца. Размова ідзе пра знікненне некаторых апазіцыйных палітыкаў — Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Дзмітрыя Завадскага...***
***Даць сваю характарыстыку вышэйзгаданай сітуацыі выказаў жаданне адзін з прадстаўнікоў настаўніцкага корпусу.***

Яшчэ Мікалай Бярдзяеў, рускі філосаф і публіцыст, сцвярджаў калісьці, што бальшавізм спараджае ў насельніцтва цёмныя інстынкты і знішчае магчымасць паяўлення грамадзянскага грамадства — такога грамадства, дзе гэтыя інстынкты (а не законы) вяршэнствуюць.

Калі ў Польшчы знік святар Ежы Папялушка, то ўсё польскае грамадства паўстала супраць гэтага. Гэта быў велізарны ўрок тагачасным уладам. Вы цудоўна ведаеце пра тое, якія ўзніклі праблемы на Украіне, дзе без вестак прапаў журналіст Георгій Гангадзе. Вазьміце, які шум узняўся вакол нядаўняга знікнення амерыканскага грамадзяніна ў Чачні. Кожны выпуск навін там, у Амерыцы, пачынаецца з паведамлення — знойдзены ён ці не? А ў нас, на Беларускім тэлебачанні і радыё, за цэлы месяц ніхто і не ўспомніць пра гэтых няшчасных, прапаўшых без вестак (і дзе — на Радзіме!) людзей — грамадзян Беларусі, дарэчы.

З аднаго боку, крыўдна, што інтэлігенцыя (інжынеры, урачы, настаўнікі, юрысты, работнікі навукі і мастацтва) стала зусім маргінальная, знаходзіцца па-за грамадствам.

Але, з другога боку, здзіўляцца няма чаму. Там, дзе пануюць воўчыя інстынкты, не самае галоўнае тое, як казаў расійскі паэт А. Блок, што “кто-то бьётся под ногами. Кто? Не время вспоминать”.

***Мікалай ВОЛЧЫК, настаўнік гісторыі Зеляневіцкай СШ Пружанскага раёна.***

**● ВЫБОРЫ - 2001**

# Таким я вижу Президента



Хотелось бы, чтобы команда будущего Президента:

1) покончила с алкоголизмом, самогоноварением, бытовыми преступлениями, бомжеванием, бродяжничеством;

2) обеспечила правовую защиту всем и каждому;

3) защитила население от взяточничества чиновников;

4) сохраняла всячески генофонд нации;

5) покончила с деструктивными сектами, пока нам не объявили “священную войну”;

6) пересмотрела пенсии, повернулась лицом к армии;

7) пересмотрела Уголовный Кодекс. В тюрьмы сажать только уголовников с тяжкими преступлениями. Всех остальных — штрафовать;

8) обеспечила полную защиту прав заключённых;

9) подняла средний уровень жизни народа;

10) дала возможность производительно работать на земле фермерам.

***Ольга ЖУРОВИЧ, пенсионерка.***
*г. Пружаны.*




# Тадэвуш Касцюшка

**(Працяг. Пачатак у № 2).**

## I. "ХІБА Я НЕ ЛІЦВІН?"

Якім бы быў далейшы лёс Тадэвуша Касцюшкі, сказаць цяжка, калі б не пэўныя акалічнасці. Справа ў тым, што ў 1764 годзе каралём Польшчы быў абраны ўраджэнец Беларусі (маёнтак Волчын Брэсцкага павета) Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, пляменнік канцлера Вялікага княства Літоўскага Міхаіла Чартарыйскага.

Прыхільнік Чартарыйскіх пісар польны Вялікага княства Літоўскага Юзаф Сасноўскі, прызначаны крыху пазней ваяводам полацкім, быў у добрых адносінах з сям'ёй Касцюшкаў. Іменна дзякуючы яго пратэкцыі, Тадэвуш Касцюшка 18 снежня 1765 года быў прыняты ў нанова створаны кадэцкі корпус.

У той жа час тут вучыліся князі Казімір Сапега, Антон Радзівіл, Мацвей Ябланоўскі, магнаты Валовіч, Чацвярцінскі і іншыя.

Сам кароль з'яўляўся шэфам корпуса кадэтаў. А непасрэдным начальнікам з'яўляўся князь Адам Казімір Чартарыйскі.

8.

У корпусе налічвалася 80 кадэтаў. Касцюшка быў у спісе 79-м. Пазней колькасць кадэтаў скарацілі да 60. Навучэнцы былі падзелены на брыгады па 20 чалавек. У кожнай брыгадзе — сваё начальства: брыгадзір і падбрыгадзір.

Кадэты займаліся стравой падрыхтоўкай, фехтаваннем, коннай яздой, вывучалі тактыку, літаратуру і гісторыю, лацінскую, нямецкую і французскую мовы, геаметрыю і вышэйшую матэматыку, фізіку, палітэканомію. Адным з асноўных прадметаў лічылася артылерыя.

У 1767—1768 навучальным годзе з ліку кадэтаў стварылі групу, якая займалася ваенна-інжынернай дысцыплінай. Сюды трапіў і Касцюшка. Асаблівая ўвага надавалася вывучэнню геаграфіі і трыганаметрыі.

У кадэцкім корпусе Касцюшка атрымаў ад сваіх калегаў мянушку "Швед з-пад Брэста", бо, падобна Карлу XII, падымаўся а чацвёртай гадзіне і, каб прагнаць сон, апускаў ногі ў балею з ледзяной вадой, якую з вечара ставіў пры ложку.

Сябрамі па корпусе засведчана, што Касцюшка быў забіяка, не ўхіляўся ад дуэляў і меў некалькі шрамаў — адзнак "мужнасці".

Вучыўся Тадэвуш Касцюшка з вялікай ахвотай. Гэтаму садзейнічалі выдатныя здольнасці і настойлівасць. Ён становіцца лепшым кадэтам корпуса. 20 снежня 1766 года атрымлівае званне харунжага, і адначасова з прадаўжэннем вучобы Касцюшку прызначылі на пасаду падбрыгадзіра з акладам 72 злотыя ў месяц. І ў далейшым ён паспяхова вучыцца і працуе. У 1769 годзе Тадэвуш ужо атрымліваў 200 злотых у месяц.

9.

У другой палове 1769 года па ўказанні караля і князя Адама Чартарыйскага Касцюшку пасылаюць у Францыю для ўдасканалення ведаў у ваенных навуках і асабліва ў ваенным і грамадзянскім будаўніцтве.

У Парыжы Касцюшка наведваў таксама заняткі ў Акадэміі жывапісу і скульптуры, браў урокі па ваеннай архітэктуры, артылерыі і тактыцы. Акрамя ўсяго гэтага, князь Чартарыйскі рэкамендаваў Касцюшку вывучаць будаўніцтва мастоў, шлюзаў, дарог, каналаў, плацін.

Пяць гадоў вучыўся Тадэвуш у Францыі. Гэта быў перыяд, калі там складалася рэвалюцыйная сітуацыя. Вялікі ўплыў на Касцюшку аказалі працы французскіх асветнікаў, а таксама выдадзеная Вялікая Французская Энцыклапедыя.

Летам 1774 года пасля кароткага падарожжа па Англіі, Італіі, Швецыі і Германіі Касцюшка вярнуўся ў Варшаву. Афіцэрскай пасады ў арміі Рэчы Паспалітай не знайшлося. Праўда, пасаду капітана можна было атрымаць, але за яе трэба было выплаціць 18 тысяч злотых. Такіх вялікіх грошай ні ў самога Касцюшкі, ні ў яго родных не было. Такім чынам, вучоны ваенны інжынер, спецыяліст ваеннай справы, застаўся без работы. Вясной 1775 года вярнуўся на Радзіму. Жыў спярша ў Сяхновічах.

## II. "ГАЛУБКІ НЕ ДЛЯ ВЕРАБ'ЁЎ..."

1.

Каб выйсці з цяжкага матэрыяльнага становішча, Тадэвуш Касцюшка заняўся пошукамі хаця б нейкай часовай працы.

Непадалёк ад Сяхновічаў знаходзіліся Сасновіцы, якімі валодаў уплывовы тытулярны ваявода, а з 1775 года гетман польны Вялікага княства Літоўскага (з 1781 г. ваявода полацкі) Юзаф Сасноўскі. Яму было добра вядома, што Касцюшка — чалавек адукаваны, які пабачыў Еўропу, і да таго ж здольны мастак, бо, знаходзячыся за мяжой і вывучаючы ваенную справу, ён таксама захапляўся выяўленчым мастацтвам і павышаў свае веды. Таму панам ваяводам Касцюшка быў запрошаны ў ягоны маёнтак, каб даваць урокі малявання дочкам Людвісе і Кацярыне.

Старэйшая дачка ваяводы Людвіка (а ёй было 19 гадоў) закахалася ў 27-гадовага капітана. Касцюшка адказаў ёй узаемнасцю. Маладыя людзі пазнаёміліся ў маі. Яны падоўгу гулялі ў прыгожым старым парку з утульнымі альтанкамі. Слухалі птушыны спеў. Іх каханне працягвалася да глыбокай восені, па кастрычнік уключна. Тадэвуш і Людвіка вырашылі пажаніцца . Але бацькі Людвікі былі супраць яе шлюбу з бедным шляхціцам. Пан гетман польны мовіў Касцюшку: "Галубкі не для вераб'ёў, а дочкі магнатаў не для шляхцюкоў".



*Людвіка Сасноўская.*



*Медальён з партрэтам Тадэвуша Касцюшкі.*

2.

А прычыны адмовы Касцюшку, які прасіў рукі Людвікі ў яе бацькоў, неўзабаве высветліліся. Гуляючы ў карты з князем Станіславам Любамірскім, Юзаф Сасноўскі прайграў яму адзін са сваіх маёнткаў. Трэба было разлічвацца з ім, але ж і маёмасць не хацелася губляць. Тады Сасноўскі дамовіўся з князем, што аддасць за ягонага сына сваю Людвіку, і такім чынам скасуе свой доўг.

Добраму настрою ваяводзе Сасноўскаму спрыяла і тое, што 13 верасня 1775 года ён атрымаў прывілей на пасаду гетмана польнага літоўскага. І князь Станіслаў Любамірскі быў не супраць таго, каб парадніцца з Сасноўскімі.

Аднак планы двух заможных бацькоў вырашыў парушыць Касцюшка. Ён не хацеў страціць сваю каханую і сплanаваў "выкрасці" Людвіку і тайна абвянчацца без згоды пыхлівага пана гетмана.

Пра свае намеры аб жаніцьбе Тадэвуш Касцюшка сказаў між іншым каралю Панятоўскаму, не прадчуваючы нічога благога, бо ведаў яго прыязнасць да роду Касцюшкаў. Такі рыцарскі ўчынак кароль нават ухваліў, але потым усё ж паслаў сваіх людзей, каб паведаміць Сасноўскаму, што задумаў жаніх. Прызнацца, такога падвоху ад караля Касцюшка ніяк не чакаў. Але пра гэта ён ужо даведаўся потым.

3.

А тым часам Тадэвуш Касцюшка пачаў дзейнічаць. Ён сабраў сваіх прыяцеляў і прыехаў да маёнтка Сасноўскага. У тую ж ноч, як і дамаўляліся, Людвіка выйшла ў парк, і коні паімчалі іх, маладых, як кажуць, па дарозе шчасця. А за імі, нібы птушкі, ляцелі на конях касцюшкавы сябрукі, вясельная дружына.

Не ведаў, не гадаў Касцюшка, што ўслед за "вясельным караванам" накіравалася цэлая стая гайдукоў пана гетмана Сасноўскага. Касцюшкаву дружыну дагналі, Людвіку забралі. А самому жаніху прыйшлося ўцякаць за мяжу, бо за выкрад дачкі, хаця і па яе згодзе, гетман лёгка мог дамагчыся судовага працэсу і смяротнага прыгавору для злодзея.

Як вынік, Тадэвуш Касцюшка апынуўся ў Францыі, але і там хапала бедных і без яго. Сябры падказалі Касцюшку, што паездка за акіян — гэта найлепшы для яго сродак развеяць тугу разлукі з каханай і засцерагчыся ад галечы. У 1776 годзе наш зямляк апынуўся ў ЗША. Амерыканцам патрэбны былі дасведчаныя афіцэры.

4.

На сваю радзіму з Амерыкі Касцюшка прыехаў такі ж бедны, як і паехаў туды. Гэтая акалічнасць, відаць, і адбілася на другім яго каханні, якое памятаў да канца дзён сваіх. Закахаўся Тадэвуш у Тэклю Журомскую, дачку харунжага брэсцкага. Тэклюсін бацька хоць і не вылучаўся заможнасцю, але быў не менш фанабэрысты, чым гетман Сасноўскі. Як наравісты бык, ён заўпарцыўся.

"Валацуга! — крычаў Журомскі, выказваючы сваю непрыязнь да жаніха. — Гойсаў па Амерыцы, як татарын па стэпе, нічога не прыдбаў. І да таго ж злодзей — хацеў пана ваяводы Сасноўскага дачку ўкрасці! Хаты не мае, дзе жонку ўтрымліваць!"

Так здарылася, што ў бязлітаснага бацькі Касцюшка не схацеў сілай узяць дачку сабе ў жонкі. Не хапіла смеласці. Аб чым шкадаваў увесь час.

Дарэчы, Тэклюся ўсё жыццё трымала ў сваім медальёнчыку выяву Касцюшкі і пасмачку яго валасоў. Тадэвуш таксама пакутваў. Да апошняга дня свайго жыцця ён лічыў лісты ад Тэклюсі сваім найкаштоўнейшым скарбам. І сам пісаў лісты да пані Тэклі, прасякнутыя шчырасцю, дабрынёй і, вядома, шкадаваннем пра страчанае сумеснае шчасце.

5.

І ў далейшым асабістае жыццё нашага земляка не ладзілася. Нейкая чорная паласа праследавала яго чамусьці пастаянна. Знаходзячыся на службе ў польскай арміі і ўжо будучы камандзірам брыгады, якая размяшчалася ў Заходняй Украіне, Касцюшка сустрэў дзяўчыну, якая спадабалася яму. Яна адказала Тадэвушу ўзаемнасцю, нават нягледзячы на тое, што Касцюшка быў старэйшы за яе на 27 гадоў. Аднак бацька дзяўчыны не дазволіў ёй выйсці замуж за ваеннага, бо лічыў, што ў Касцюшкі няма добрага маёнтка. Але гэта былі толькі адгаворкі. Расказваюць, што прычына была адна: маці нявесты сама закахалася ў Касцюшку, і гаспадар сямейства не змог даць дазвол на шлюб сваёй дачкі з Тадэвушам.

І ў маладосці, і на старасці Тадэвуш Касцюшка заставаўся ў адзіноце, жывучы толькі памяццю аб былых шчаслівых днях і сустрэчах.

## III. ЗА ВОЛЮ НАРОДНУЮ

1.

Апынуўшыся ў Паўночнай Амерыцы, Тадэвуш Касцюшка, як ваенны афіцэр, паступіў на службу ў амерыканскую армію. Амерыканскі народ тады змагаўся за сваю свабоду і незалежнасць супраць англійскіх каланізатараў. Гэта было летам 1776 года.

Як пішуць гісторыкі, тая вайна з'яўлялася буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыяй, якая ў сваю чаргу выклікала да жыцця моцны дэмакратычны рух. Іменна рэвалюцыйныя ідэі барацьбы за свабоду і незалежнасць былі блізкія Тадэвушу Касцюшку. І ўжо 18 кастрычніка ён быў залічаны ў амерыканскую армію ў званні палкоўніка. На працягу сямі гадоў ён знаходзіўся на ваеннай службе. А яна была небяспечнай: ішла вайна.

Амерыканская армія складалася ў асноўным з простых гараджан і афіцэраў і мела вострую патрэбу ў высокакваліфікаваных вайскоўцах. Як ваенны інжынер, Касцюшка быў тут якраз дарэчы. Першым ягоным выпрабаваннем і даволі буйным стала складанне плана і будаўніцтва ўмацавання на беразе ракі Дэлавер для аховы Філадэльфіі. Іменна тут у той час было сканцэнтравана ўсё кіраўніцтва барацьбой за незалежнасць. Тут прынялі Канстытуцыю ЗША. Філадэльфія на працягу дзесяці гадоў з'яўлялася сталіцай краіны.

Тадэвуш Касцюшка выдатна справіўся з першым важным заданнем. Як вынік, Савет бяспекі штата Пенсільванія адзначыў ягоную працу грашовай прэміяй.



*Тадэвуш Касцюшка ў генеральскім мундзіры.*

*Святаслаў* **КАЖАДУБ.**
*Івацэвіцкі раён.*

**(Працяг будзе).**

# "ХОТЕЛОСЬ ПРАЗДНИКА, НО..."

***Так называлась статья, опубликованная в нашей газете за 5 — 11 января 2001 года. На неё откликнулись педагоги Телеханской школы-интерната. Кроме этого, редакция попросила высказать своё мнение по затронутому вопросу начальника инспекции по делам несовершеннолетних Берёзовского РОВД М. С. Стефанову. Вместе с комментарием редакции мы предлагаем их вашему вниманию, уважаемые читатели.***

## Мы возмущены

Мы, педколлектив Телеханской школы-интерната, возмущены опубликованием статьи "Хотелось праздника, но..." в "Газете для вас" от 05.01.2001 года под редакцией Надежды Борисенко.

Хотелось бы спросить, откуда уважаемая Н. Борисенко взяла такие факты в отношении воспитанника нашей школы-интерната Василевского Валентина. Она даже не проверила факты, прежде чем написать статью в газету, чем вызвала возмущение не только коллектива педагогов, но и учащихся, где обучаются ещё два брата Василевского Валентина — Василевский Виталий - 7 класс, Василевский Андрей - 5 класс.

В настоящее время в Телеханской школе-интернате обучается 215 детей, из них 30 человек-сирот. Все классы переполнены. При норме 12 человек в классах обучается 20, 24, 26 и даже 27 человек. Четыре года назад ( а не 1,5 года как написано в статье) в нашу школу поступило трое детей Василевских из Берёзовского района. Отец их был осуждён, а мать воспитанием детей не занималась. Не смотря на то, что классы в школе были переполнены, детей приняли в школу. Этим самым мы наказываем своих учителей и воспитателей, которые вместо 12 детей работают более чем с 20 человеками, получая заработную плату за обучение и воспитание 12 человек. Но вины детей здесь нет. Мы окружили их своей заботой и любовью. Школа обеспечивала их одеждой, обувью, письменными принадлежностями. Пока отец находился в тюрьме, дети имели статус сироты. За 4 года нахождения детей в школе-интернате их родная мать не навестила детей ни разу, а отец после освобождения забирал на летние и осенние каникулы. Как дети были счастливы! У них тоже есть семья! Но... счастье их было не долгим. Дома их никто не ждал, особенно мать.

А на каникулы мы не отправляли Василевского Валентина "в никуда", а оставили, как и братьев, в школе, приготовили Новогодние подарки, т. к. судьбой ребят "любящие родители" не интересовались. И почему Борисенко Надежда не поинтересовалась у отца, который несёт ответственность за своих детей и не лишён родительских прав, а всю вину взвалила на нас "бездумных взрослых", как называет она в своей статье работников школы-интерната.

А как же поступить нам, если есть строгая инструкция, по которой мы не имеем права оставлять на каникулы детей, имеющих родителей, т. к. на их содержание на этот период государство не выделяет средств. Почему автор статьи винит только школу? А где же отец, если уж мать лишена родительских прав?.. Почему не действует статья Конституции, которая обязует родителей нести ответственность за воспитание своих детей? Почему мы идём по самому лёгкому пути, лишая их родительских прав, тем самым давая им ещё больше свободы для разгульной жизни. А дети всё равно бегут в родительский дом, каким бы холодным и неуютным он ни был. Официально она лишена родительских прав, но для ребёнка она всё равно мать.

И наше мнение: не нужно обвинять друг друга, а всем социальным службам работать в тесном сотрудничестве. Ведь в жизни бывают самые разные ситуации, непредсказуемые. А дети, конечно, страдают.

***ПЕДАГОГИЧЕСКИЙ КОЛЛЕКТИВ:***
***Ячник П. И., Валуева Л. Н., Лукашевич Т. Я., Акулич З. И. и другие, всего 18 человек.***

## А рядом живут сироты

Проблема детей-сирот и полусирот сегодня существует, и нам приходится заниматься ей постоянно. Это касается и семейства Василевских. В семье — восемь детей. Мать — пьяница, лишена материнства. Отец, правда, не лишен своих родительских прав, но он то на свободе, то за тюремной решеткой. Даже находясь на свободе, он почти не интересовался своими детьми. Поэтому их определили по школам-интернатам.

Когда на зимних каникулах в Березе появился наш старый знакомый Василевский, то сразу же дал знать о себе — совершил кражу. В беседе с ним выяснилось, что его отправили из Телехан домой, зная, что некому здесь его даже встретить, не говоря уже о каком-то материальном обеспечении или воспитании.

Чтобы удостовериться в правильности сказанного, я позвонила в Телеханскую школу-интернат. Разговаривала по телефону с заместителем директора. Вот она и сказала мне, что отправили Василевского на каникулы домой, ссылаясь на то, что на детей-полусирот государство не выделяет деньги на время каникул. Таких детей должны содержать родители.

Пока шло разбирательство и родные Василевского обещали завезти или отправить Валентина в школу-интернат, он совершил еще две кражи. И уже сейчас стоит вопрос не о возвращении его по месту учебы, а об определении его в спецшколу. Это должны делать уже работники школы-интерната совместно с инспекцией по делам несовершеннолетних Ивацевичского РОВД.

Я с большим уважением отношусь к коллективу Телеханской школы-интерната. Они всегда шли нам навстречу, принимая сирот и полусирот к себе даже через " не могу". Но если возникли проблемы с Валентином Василевским, то их надо решать. Именно в этом я вижу выход из создавшегося положения. Сироты живут рядом с нами, и от этого нам никуда ни убежать, ни скрыться...

***М. С. СТЕФАНОВА,***
***начальник инспекции по делам несовершеннолетних Березовского РОВД.***

### ОТ РЕДАКЦИИ

Публикуя статью "Хотелось праздника, но..." Надежды Борисенко, редакция ни в коем случае не хотела обидеть или унизить педколлектив Телеханской школы-интерната. Тем более, что всё рассказанное Василевским - беглецом младшим в Березовской инспекции по делам несовершеннолетних, куда он попал за кражу, явилось как будто его собственным мнением.

В статье рассказано о той ситуации, которая сложилась в связи с тем, что воспитанник, по их мнению, удрал из школы к своим родителям, но там, к сожалению, его никто не ждал. Поэтому у него был один выход — заняться старым, а именно — воровством. Таким он и попал раньше в школу-интернат.

Письмо-реагирование Телеханских педагогов мы поместили полностью без всяких правок. Кроме возмущения статьей "Хотелось праздника, но...", мы не нашли в нем опровержения ни одного факта.

На вопрос **"Откуда уважаемая Н. Борисенко взяла такие факты в отношении воспитанника нашей школы-интерната Василевского Валентина?"** отвечает сама статья — в инспекции по делам несовершеннолетних Березовского РОВД.

Что же касается фразы **"по вине бездумных взрослых"**, которая, как видно, обидела телеханских педагогов, то любой читающий статью поймет, что это мнение не автора, а скорее всего самого беглеца-школьника, который, по-видимому, выгораживая свой очередной преступный поступок, обвинил во всём педагогов.

Этого случая с Василевским Валентином и многих других, по всей видимости, и не было бы, если бы наше родное государство по-настоящему заботилось о молодом поколении. Как будто внешне забота и проявляется — открыты и работают детские дома, школы-интернаты. В них большинство детей — это сироты при живых родителях. Отцы и матери пьют-гуляют, бросают родных детей, а государство их учит и воспитывает в своих казенных домах. Но дело в том, что никто не заменит им ни отца, ни мать, как бы того не хотелось. Давно уже педагоги бьют тревогу, что нужен действенный закон, обязывающий родителей растить и воспитывать своих детей. То, что записано в Конституции Республики Беларусь, а именно: **"Родители или лица, их заменяющие, имеют право и обязаны воспитывать детей, заботиться об их здоровье, развитии и обучении" (ст. 32)**, сегодня не действует. Количество сирот при живых родителях с каждым годом растет. Подтверждением этому является Телеханская школа-интернат, где значительно больше детей, чем это положено.

Что же дальше? А дальше, не исключено, что подобные случаи, когда дети бегут к своим родителям (пусть и пьяницам, бомжам, аферистам, проституткам и т. д.), будут снова и снова повторяться, и те же взрослые (и в милиции, и в школах-интернатах) будут заниматься воспитанием и перевоспитанием тех же несчастных детей.

Не сомневаемся, это будет до тех пор, пока экономическая ситуация в стране не изменится к лучшему, пока человек за свой труд не будет получать достойную зарплату, пока не будут действовать законы, а не указы и декреты.

Как-то великий педагог Я. Коменский сказал: **"Нет ничего труднее, как перевоспитать человека плохо воспитанного"**. С этого и начинаются трудности для воспитателей. Это еще раз подтверждает ту аксиому, что семья — это главное в воспитании.

А телеханским педагогам (имеется ввиду школы-интерната) хочется пожелать успехов в их трудном деле. Они по-настоящему болеют за своих воспитанников, больше, чем иные родители. Не зря бывшие воспитанники школы-интерната считают своих учителей и воспитателей очень близкими и родными людьми, пишут и звонят им, приезжают к ним домой, предлагают свою помощь. Так относятся только к педагогам с большой буквы. Хотелось бы, чтобы и родители также относились к своим детям. Любили их и были любимыми. Чтобы казенные дома остались бы только в воспоминаниях. Очень хотелось бы.

Но, к сожалению, сегодня без проблем не обходится. Есть они и в Телеханской школе-интернате. Главное в том, чтобы спокойно, со знанием дела, без амбиций решать их. Несмотря ни на какие сложности.

## Открытое письмо... в зону

**(Ответ на публикацию "Только бы выйти на свободу", "Газета для вас", № 52 за 29 снежня 2000 г. — 4 студзеня 2001г.)**



Здравствуйте, многоуважаемый Владимир Кудинов!

Поздравляем Вас с Новым годом!

Мы Вас помним, любим и ждём. Мы восхищаемся Вашим великодушием, честностью и смелостью, чего нам так не хватает. Мы помним Ваш пример — хорошо работать, помогать людям. Сегодня нам не достаёт решительности. Нам необходимо Ваше слово и руководство.

Мы серьёзно считаем Вас достойным претендентом в президенты Республики Беларусь и уверены, что Вы сделали бы нашу жизнь лучше.

Если у Вас есть возможность на переписку со своими избирателями, то обязательно пишите.

***А. ТОЛСТАЯ,***
***одна из избирателей.***
***г. Ивацевичи.***

## "Дзіцячыя" і зарплата выплачаны

Публікацыя "У Новы год са старымі даўгамі" ("Газета для вас" № 1 за 2001 год) выклікала незадавальненне сярод кіраўніцтва эксперыментальнай базы "Майск". Напомнім, што размова ў інфармацыі ішла пра затрымку так званых "дзіцячых" і зарплаты за лістапад 2000 года, аб якой нам паведаміла адна з работніц гаспадаркі.

Як паведамілі нам па тэлефоне з эксперыментальнай базы "Майск", зарплата работнікам базы была выплачана яшчэ 27 снежня, і яна зусім не такая малая (13 тысяч), як паведамлялася ў дадзенай раней інфармацыі. Да прыкладу, сярэдні заробак за снежань складае 39786 рублёў, за ўвесь 2000 год — 33715 рублёў.

Яшчэ раз нагадваем, што людзі званілі нам перад Новым годам. Добра тое, што добра заканчваецца: **зарплата выплачана і, дай Бог, каб затрымак з яе выплатай у новым годзе не было.**

***Аляксандр ГОРБАЧ.***

